Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

8 мая 1998 года
ПЯТНІЦА
№ 35 (115)
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы — 1000 руб.
Цана ў розніцу — 1500 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ - БАРАНАВІЧЫ - БЯРОЗА

## *Заўтра — Дзень Перамогі. Са святам! Вам, ветэраны Вялікай Айчыннай вайны, наш нізкі паклон!*

### АДЗІН З МНОГІХ

*Для Майсея Рыгоравіча Ланца (на здымку) мінулая вайна назаўсёды засталася ў памяці. 3 мая 1943 года ён знаходзіўся ў 130-м асобна дзеючым атрадзе імя Кутузава. Пасля злучэння з часцямі Чырвонай Арміі летам 1944 года Ланца мабілізавалі ў дзеючую армію. Накіравалі на вучобу ў Маскву ў аўташколу. Закончыў яе, быў адпраўлены на Далёкі Усход, дзе вызваляў Манчжурыю ад японскіх самураяў. Службу ў арміі працягваў і пасля вайны.*

*Баявая дзейнасць М. Р. Ланца адзначана ордэнам Айчыннай вайны II ступені, медалём "За адвагу", іншымі ўрадавымі ўзнагародамі.*

*Дэмабілізаваўшыся, былы салдат спярша працаваў у камсамольскіх і партыйных органах.*

*З 1958 года Майсей Ланец ужо на службе ў органах унутраных спраў — быў аўтаінспектарам, участковым міліцыянерам. 25 год аддаў гэтай нялёгкай рабоце. Ужо будучы на пенсіі працягваў сваю працоўную дзейнасць. Яшчэ восем гадоў узначальваў Целяханскую пажарную каманду.*

*М. Р. Ланец жыве зараз у Целяханах. Ён на заслужаным адпачынку. Са святам Вас, Днём Перамогі, паважаны Майсей Рыгоравіч!*



БАРАНАВІЧЫ

### Смерць старшыні

Паконччыў жыццё самагубствам старшыня праўлення калгаса "Новы шлях" Валерый Волкаў. Ён быў самым маладым у раёне кіраўніком, яму споўнілася 32 гады, і на гэтай пасадзе прарабіў усяго 5 месяцаў.

Пакуль няясна, што падштурхнула старшыню калгаса на такі жудасны крок. Ясна другое: сямейныя ці бытавыя праблемы тут ні пры чым. Сям'я Волкава, у якой гадуюцца трохгадовы сын і пяцігадовая дачка, была дружнай і прыстойнай.

БЯРОЗА

### Пікет забараніць

Чарговы раз старшыня Бярозаўскага райвыканкама І. Малейцін не даў дазволу раённай радзе БНФ "Адраджэнне" на правядзенне пікету салідарнасці з палітзняволенымі (П. Севярынцам, А. Шыдлоўскім і інш.) і працоўнымі саюзнай братняй Расіі, якія па паўгода і болей не атрымліваюць заробкаў. Праўда, на гэты раз не проста адмоўлена, а забаронена праводзіць пікет. Змена фармулёўкі, магчыма, звязана з намерам пікетоўцаў у рамках усебеларускай акцыі Народнага Фронту збіраць подпісы за адстаўку Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі.

● *УВАГА: КОНКУРС!*

## Моладзь ведае Тадэвуша Касцюшку і ... "Газету для вас"

У №16 за 28 лютага г. г. "Газета для вас" аб'явіла конкурс "Дзевяць плюс адзін", у якім першыя дзевяць пытанняў з'яўляліся своеасаблівым тэстам на ўзровень эрудыцыі школьнікаў старэйшых класаў і моладзі. На дзесятае пытанне ("Дзень нараджэння якога славутага нашага земляка, вялікага сына зямлі беларускай, нацыянальнага героя Польшчы і ЗША, ганаровага грамадзяніна Францыі мы адзначаем у першых чыслах лютага (у гэты дзень у "Газеце для вас" быў змешчаны аб ім артыкул)?") трэба было адказаць у пісьмовай форме і адказ дасласць у рэдакцыю.

Скажам адразу: адказаў прыйшло шмат! Юнае пакаленне ведае Тадэвуша Касцюшку і "Газету для вас". Сёння мы называем імёны тых, хто даслаў правільныя адказы, а пісьмо Наталлі Стральчук з г. Івацэвічы друкуем поўнасцю. Вось яно: "Добры дзень, рэдакцыя "Газеты для вас"! Пішa вам Стральчук Наталля, вучаніца 5 класа сярэдняй школы № 3 г. Івацэвічы. Мы (наша сям'я) выпісваем вашу газету з дня яе заснавання. Газета нам вельмі падабаецца, у ёй можна знайсці шмат цікавага. Кожную сераду і суботу я чакаю вашу газету. Я вырашыла прыняць удзел у конкурсе "Дзевяць плюс адзін".

Адказваю на 10-е пытанне: 4 лютага 1746 года нарадзіўся Андрэй Тадэвуш Банавянтура Касцюшка — вялікі сын беларускай зямлі, які ў далейшым стаў нацыянальным героем Польшчы, Злучаных Штатаў Амерыкі, ганаровым грамадзянінам Францыі.

Віншую з днём вясны, паважаная рэдакцыя".

Наталля Стральчук, а таксама Настасся Елісеева з г. Бярозы і Юра Ярмолік з вёскі Рэчкі Івацэвіцкага раёна, якія прыслалі не толькі правільныя адказы на 10-е пытанне конкурсу, але і падрабязна апісалі біяграфію нашага славутага земляка Т. Касцюшкі, сталі пераможцамі нашага конкурсу. Яны атрымаюць спецыяльныя прызы "Газеты для вас".

Заахвочвальныя прызы "Газеты для вас" атрымаюць і наступныя ўдзельнікі конкурсу "Дзевяць плюс адзін":

Людміла Фурса — в. Быцень
Алёна Шагун — в. Кушняры
Сяргей Якімовіч — в. Краі
Людміла Федарцова — в. Святая Воля
Надзежда Гладун — в. Волька
Ірына Лахнюк — г. п. Целяханы
Сяргей Ананка — в. Волька
Таццяна Куратнік — в. Святая Воля
Юля Кірчук — в. Любішчыцы
Юля Ягнешык — в. Яглевічы (Івацэвіцкі раён)
Ю. Скарына (на жаль, не ведаем імя) — г. Бяроза.

**Віншуем пераможцаў і запрашаем усіх да нас, у рэдакцыю "Газеты для вас" (г. Івацэвічы, вул. Леніна, 62) 14 мая г. г. на 14 гадзін. З задавальненнем пазнаёмімся з вамі і ўручым прызы.**

Працягваем наш конкурсны марафон і прапануем вашай увазе яшчэ адзін конкурс "Дзевяць плюс адзін". Жадаем вам удалых адказаў (умовы і пытанні конкурсу на 4-ай стар.).

*ВАША ПІСЬМО*

## Я КАЖУ: ДЗЯКУЙ

Паважаная рэдакцыя "Газеты для вас"! Перадайце, калі ласка, вялікі дзякуй Івацэвіцкаму аддзяленню Беларускага таварыства інвалідаў, асабіста яго старшыні В. І. Саўчуку за тое, што ў другім квартале г. г. мы, інваліды, бясплатна атрымліваем "Газету для вас". Газета добрая, цікавая. Ёсць у ёй і мясцовыя навіны, і рэспубліканскія, і праграма тэлеперадач. Ёсць і такія матэрыялы, якія ніколі ў афіцыйнай раёнцы не знойдзеш днём з агнём.

*Ніна Міхайлаўна ВАСЮЦІЧ, інвалід III групы, г. Івацэвічы.*

● *РЫНКАВАЯ ПЛОШЧА*

## ШТО ПАЧЫМ?

*Цэны на рынках нашага рэгіёна ў мінулыя выхадныя (у тысячах руб. за адзін кілаграм) былі наступныя:*

| | Івацэвічы | Баранавічы | Бяроза |
|---|---|---|---|
| Свініна | 95—120 | 100—180 | 110—170 |
| Сала салёнае | 80—90 | 75—95 | 85—90 |
| Алей (1 л) | 65 | 54 | 80 |
| Яйкі (1 дзесятак) | 24—28 | 28—30 | 23—30 |
| Малако (3 л) | 18 | 18—20 | 18 |
| Тварог | 25 | 30 | 25 |
| Агуркі | 70 | 60 | 60—70 |
| Цыбуля зял. (1 пучок) | 10 | 10—15 | 5—10 |
| Капуста | 25 | 16—18 | 25 |
| Бульба | 6—7 | 7—9 | 7—9 |
| Радыска (1 пучок) | 15 | 14 | 10—15 |
| Пятрушка (1 пучок) | 5 | 5 | 5 |
| Лімоны | 64 | 56 | 66 |
|Ківі (1 шт) | 13 | 10 | 16 |
| Рыс | 30 | 29 | 29 |
| Яблыкі | 25—35 | 22—30 | 27—35 |
| Проса | 23 | 23 | 23 |
| Масла сялянск. | 80—85 | 85—90 | 75—80 |
| Бананы | 74 | 69—74 | 85 |
| Апельсіны | 49 | 39—43 | 45—50 |
| Памідоры | 125 | 115 | 140 |
| Макар. выраб. | 19—21 | 22—26 | 23—26 |
| Грэчка | 35 | 30—32 | 30 |
| Цукар | 30 | 30 | 30 |
| Мука | 17 | 17 | 18 |
| Селядцы п.п. | 65 | 52 | 56 |

### ВАЛЮТА НА «ЧОРНЫМ» РЫНКУ

| | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 долар ЗША | 52 | 54 | 52 | 55 | 50 | 54 |
| 1 дойчмарка | 25 | 27 | 25 | 28 | 25 | 27 |
| 1 рубель Расіі | 7 | 8 | 7 | 9 | 7 | 9 |



**ПОДПИСКА — 98**

**До 25 мая можно подписаться на "Газету для вас" на июнь. Цена газеты на месяц — 8 тысяч руб.**

**Одновременно начинается подписка на II-ое полугодие 1998 года.**

**Цена газеты:**
**на месяц — 10 тысяч рублей,**
**на квартал — 30 тысяч рублей,**
**на полугодие — 60 тысяч рублей.**

**ИНДЕКС "Газеты для вас"— 63834.**

**ВЕКАПОМНАЕ**

# ПОДЗВІГ



**1.**

У жыцці заўсёды ёсць месца подзвігу. Гэтае выслоўе мне і зараз даспадобы. Можа таму, што, пражыўшы нямала, пабачыўшы і адчуўшы слодыч і горыч савецкага раю, прыйшоў да высновы, што сапраўды гэта подзвіг выжыць сёння простаму чалавеку.

Калі ж улічыць той факт, што лепшыя рысы чалавечага характару праяўляюцца менавіта ў самых складаных абставінах, можна зразумець дзёрзскія ўчынкі самых смелых, іх моцнае жаданне не толькі паказаць сябе, а рызыкнуць на мяжы жыцця і смерці, а часам упаўне ўсвядомлена пайсці на гібель дзеля выратавання іншых і нават дзеля самога сябе, каб не папасці ў рукі катаў, як гэта не раз адбывалася ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

Ніхто тады не сумняваўся, а зараз тым больш, што так іменна і зрабіў наш зямляк Міхаіл Юрашчык, малады партызан-падрыўнік атрада імя Дзімітрава, які базіраваўся ў той жудасны ваенны час у Гута-Міхалінскім лесе і дзейнічаў на тэрыторыі Івацэвіцкага раёна.

**2.**

Гэта было ў жніўні 1943 года. Немцы вырашылі стварыць беларускі батальён для барацьбы з партызанамі. 27 маладых мужчын вёскі Гошчава атрымалі позвы, у тым ліку і Міхаіл Юрашчык, у якіх патрабавалася з'явіцца ў Івацэвічы ў нямецкую камендатуру для запісу ў той батальён. Гэта не на жарт устрывожыла гошчаўскіх падпольшчыкаў.

— Не з'явішся – прыедуць і забяруць сілай або расстраляюць, — казалі адзін аднаму маладыя гошчаўцы. – І будзеш служыць немцам. Прымусяць стаць здраднікам...

Васіль Хітрун, які працаваў лесніком у немцаў, прапанаваў:

— Да немцаў служыць не пойдзем і да партызан не далучымся. Ёсць магчымасць схавацца ў лесе (я ведаю дзе) і дачакацца прыходу Чырвонай Арміі.

Разглаваўся Міхаіл Юрашчык:

— Не хавацца ў лесе трэба, а хутчэй уключацца ў барацьбу і біць фашыстаў. Хто за тое, каб пайсці ў лес да партызан, а не ў беларускі батальён?

Хлопцы аднагалосна рашылі: ісці да партызан. У той жа вечар яны накіраваліся ў атрад імя Дзімітрава. Многія з гошчаўцаў былі са сваёй зброяй.

**3.**

Прыбыўшае папаўненне размеркавалі па падраздзяленнях. Міша Юрашчык папаў у дыверсійную групу, а больш дакладна стаў мінёрам. Пачаліся звычайныя партызанскія будні, да якіх трэба прывыкаць. Бо жыць у лесе – не ў сялянскай хаце, спаць днём, а ноччу хадзіць на заданні адразу не кожны зможа. На трэцюю ці чацвёртую ноч многія засыналі на хаду. Таму кожнага навічка рыхтавалі да начных паходаў. У любое надвор'е лясныя салдаты рухаліся да намечанага аб'екта, каб выканаць чарговы загад, здзейсніць новы прысуд над ворагам.

Юрашчык выдатна засвоіў новую для сябе справу. Паставіць міну ці іншае выбуховае ўстройства за лічаныя секунды ды яшчэ ва ўмовах ночы, калі і страляюць, і ракеты пускаюць, трэба мець сапраўды прафесіянальныя навыкі.

Калі сказаць шчыра, Міша з дзяцінства вылучаўся сваёй дапытлівасцю і разважлівасцю. Любую работу выконваў хутка і акуратна. Не ўсе, відаць, ведаюць, што Юрашчык нарадзіўся далёка ад роднай вёскі Гошчава, аж у Курскай губерні, дзе бацькі, гошчаўскія сяляне, знаходзіліся ў бежанцах. Толькі ў 1921 годзе сям'я вярнулася ў Гошчава. А неўзабаве вялікая бяда напаткала сям'ю Юрашчыкаў – памёр бацька. Цяжкая страта. Таму з дзяцінства Міша і старэйшы брат Васіль дапамагалі маці. Ужо ў восем гадоў хлопец пасвіў сялянскіх кароў. Падлеткам падаўся ў наймы. Працаваў на лесанарыхтоўках, на шасэйнай дарозе. Вучыцца, на жаль, давялося вельмі мала. Закончыў толькі польскую пачатковую школу.

Верасень 1939 года, калі Заходнюю Беларусь далучылі да БССР, канчаткова вырашыў лёс Міхаіла Юрашчыка. Ён становіцца ў рады рабочага класа – працуе на чыгунцы. Але на шляху Мішыных мірных планаў стала вайна, як чорная злавесная хмара, засланіўшы сабой увесь далягляд.

**4.**

У Гошчаве ствараецца маладзёжнае падполле, якім кіруе Васіль Майсейчык. Маладыя вяскоўцы трымаюць сувязь з Косаўскім антыфашысцкім камітэтам на чале з Мікалаем Фёдаравічам Трындай.

Перад падпольшчыкамі ставіцца задача: змагацца з фашыстамі. Патрыёты перш за ўсё распаўсюджвалі зводкі Савінфармбюро сярод насельніцтва аб становішчы на франтах.

У Гошчаве і навакольных вёсках паявілася нямала салдат-акружэнцаў, якія ўцяклі з нямецкага палону. З імі таксама сустракаліся падпольшчыкі, гутарылі. Важна было тое, што гэта ўжо абучаныя байцы, ім падавай толькі зброю. Першую групу такіх салдат накіравалі ў жытлінскія лясы, дзе яна прымкнула да партызан на чале з Аляксеем Чартковым.

Хлопцы збіралі таксама зброю на месцах былых баёў і адступлення савецкіх войск. Як вынік, толькі ў тайніку Юрашчыка аказаліся кулямёт, пяць вінтовак, многа патронаў.

Калі ў маі 1942 года ў Гута-Міхалінскім лесе арганізаваўся партызанскі атрад імя Дзімітрава, усю зброю з тайніка Міхаіл перадаў партызанам. Тады ж ён становіцца сувязным атрада. А сувязныя – гэта вочы і вушы лясных салдат. І яшчэ яны — выдатныя праваднікі. Неаднаразова Юрашчык праводзіў баявыя групы партызан на чыгунку, на шашу Брэст—Масква. Аперацыі народных мсціўцаў у большасці заканчваліся паспяхова.

Са сваімі сябрамі-падпольшчыкамі Міхаіл знішчыў тры масты паміж Гошчавам і Няхачавам.

У жніўні 1942 года, аб'яднаўшы ў адзін баявы кулак некалькі атрадаў, партызаны разграмілі нямецкі гарнізон у Косаве. Цэлы месяц тут існавала савецкая ўлада, і немцы ніводзін раз сюды не сунуліся. У тым, што падмацаванне да немцаў не прыйшло ў самы патрэбны момант, заслуга гошчаўскіх падпольшчыкаў, якія напярэдадні наступлення на Косава знішчылі тэлефонную сувязь, якая звязвала Косаўскі гарнізон з Няхачавым і Івацэвічамі.

**5.**

Партызанскі рух у былым Косаўскім раёне разрастаўся, шырыўся. Новыя атрады ўзнікалі ў Гута-Міхалінскім, Буленскім, Жытлінскім, Воўчанорскім лясах. Немцы ўжо адчувалі іх сілу. Гэта непакоіла фашыстаў і прыводзіла іх у шаленства.

Таму восенню 1942 года немцы рашылі знішчыць народных мсціўцаў у Гута-Міхалінскім лесе. Дзеля гэта фашысты блакіравалі названы лясны масіў, каб не выпусціць адтуль ніводнага чалавека.

Аднак партызаны, ведаючы ўсе патаемныя сцежкі праз лес і балота, невялікімі групамі пакідалі абжытыя мясціны. У адкрытыя баі не ўвязваліся, бо перавага была на баку ворага. У некаторых месцах, дзе ахова, як даносілі разведчыкі, была маланкай, прарывалі кола блакады з кароткім боем. Гошчаўскія падпольшчыкі, што засталіся на месцы, разам з Юрашчыкам праводзілі групы партызан, якія прарваліся з блакаднага катла, за чыгунку Брэст—Масква. Далей іх шлях ляжаў у Выганашчанскі лес.

Ворагу не ўдалося знішчыць народных мсціўцаў. Страты, праўда, былі, нязначныя. Больш пацярпела мірнае насельніцтва. Пасля блакады атрад імя Дзімітрава і іншыя атрады вярнуліся ў Гута-Міхалінскі лес.

Падпольшчыкі і асабіста Міхаіл Юрашчык многа зрабілі для таго, каб хлопцаў і дзяўчат з Гошчава і навакольных вёсак не вывезлі ў рабства ў Нямеччыну. У маі 1943 года напярэдадні аблавы на маладых вяскоўцаў патрыёты адправілі ў атрад імя Дзімітрава 17 чалавек. Юрашчык тады застаўся ў Гошчаве для падпольнай работы. Але і яму разам з іншымі, хто застаўся для далейшай дзейнасці і хто атрымаў позвы для ўступлення ў беларускі батальён, у жніўні 1943 года давялося канчаткова пакінуць родную хату і далучыцца да партызан.

**6.**

Стаўшы партызанскім падрыўніком, Міхаіл Юрашчык паступова ўцягнуўся ў новую справу. Паходы на шашу і чыгунку, удзел у «рэйкавай вайне», у Бялавіцкім баі загартавалі волю і характар хлопца. Ён стаў сапраўдным байцом, мужным і смелым. Ніякія перашкоды і цяжкасці не змаглі спыніць яго, а тым больш зламаць, падарваць упэўненасць у святую справу барацьбы з ворагам.

Цяжкімі і рызыкоўнымі былі выхады на чыгунку, асабліва зімой, калі сцюжа і завеі, калі доўга прыходзілася ляжаць на снезе, затаіўшыся ў чаканні чарговага варожага эшалона. Але колькі было радасці, калі бачылі, як пад адхон паляцеў цэлы паравозны састаў. Тады мароз – не мароз, ноч – не ноч, а сапраўднае партызанскае свята, якое потым часта прыпамінаў Міхаіл Юрашчык.

За паўгода знаходжання ў атрадзе Міхаіл пусціў пад адхон шэсць варожых эшалонаў, падарваў на шашы некалькі нямецкіх машын.

Кажуць, што вайну для таго і распачынаюць, каб хтосьці гінуў. Вайна сапраўды патрабуе ахвяраў, людскіх жыццяў. Аднак пра смерць Юрашчык ніколі не думаў і не гаварыў. Думаць і гаварыць, значыць баяцца. А баязліўцам Міхаіл ніколі не быў і сам іх цярпець не мог. У іхнюю дыверсійную групу маладушных не залічвалі. Усе былі проста арлы. Дружныя і на дзіва вынослівыя. Таму гібель каго-небудзь з іх лічылася цяжкай стратай для ўсіх. У Бялавіцкім баі, напрыклад, загінуў Косця Гардзейчык, Мішын баявы сябра. Доўга хадзіў Юрашчык сам не свой, не хацелася верыць, што побач ніколі не будзе Косціка з яго прывабнай усмешкай і шчырасцю ў адносінах да таварышаў, да ўсіх партызан.

**7.**

Аднойчы Мікалай Васільевіч Банасевіч, былы партызан атрада імя Дзімітрава, таксама гошчавец, як і Юрашчык, расказаў мне пра Мішын сон, які ўбачыў ён у партызанскай зямлянцы. Пра яго распавёў сам Юрашчык свайму земляку.

«Мне не часта штосьці снілася, — расказваў тады Міхаіл. – У дзяцінстве, праўда, здаралася такое. Я з захапленнем расказваў маці, а яна стаpалася разгадаць сон. Мне цікава было слухаць маці. У партызанцы мне ніколі нічога не снілася. Прыходзілі з задання і адразу валіліся спаць. І вось у канцы лютага 1944 года, днём, калі я адпачываў пасля прыходу з задання, я ўбачыў сон.

Вечар. Усе дома. За сталом сядзелі маці, брат Васіль і я. Вячэралі. Раптам скрыпнулі дзверы і на парозе паявіўся бацька. Я быў яшчэ малы, калі ён памёр. Таму помню яго слаба. Маці, праўда, многа расказвала пра бацьку. А тут ён у хаце. Я аж анямеў ад страху, але хацеў крыкнуць: «Татка!» Аднак голас чамусьці прапаў. Маці закрыла твар рукамі і таксама маўчала.

«Збірайся, пойдзем са мной», — сказаў бацька мне, стоячы ля парога.

Калі загаварыў бацька, маці нібы ажыла.

«Нікуды ён не пойдзе. Не пушчу. І ты заставайся, хопіць блудзіць па свеце», — распачала гаворку маці.

«Я не магу застацца, — сказаў бацька. – А ты, сынок, будзь гатовы, на днях я заскочу за табою...

І я прачнуўся...»

Вось такі сон. Міхаіл чакаў ад Банасевіча нейкай разгадкі. Але Мікалай толькі і сказаў: «Берагчыся табе трэба, Міша. Беражонага і Бог беражэ».

Юрашчык, памаўчаўшы, толькі і прамовіў: «І трэба ж такое прысніць...»

**8.**

Пачаўся сакавік 1944 года. Снег раставаў марудна, ноччу яшчэ падмарожвала. Усё ж адчувалася, што вясна не за гарамі. У народных мсціўцаў у тыя дні быў добры настрой. Вораг, хоць і агрызаецца, але адкочваецца на захад. А роднай арміі трэба дапамагаць тут, у тыле, каб хутчэй прагнаць захопнікаў са сваёй зямлі. А гэта значыць, трэба яшчэ больш граміць нямецкія камунікацыі, пускаць пад адхон варожыя эшалоны, каб не дапусціць падмацаванняў на фронт. І партызаны ўчасцілі свае выхады на чыгунку.

У пачатку сакавіка адбыўся камсамольскі сход у атрадзе, а потым пасяджэнне бюро Косаўскага падпольнага райкама камсамола. Маладых партызан прымалі ў рады ВЛКСМ. У той першы веснавы дзень стаў камсамольцам і Міхаіл Юрашчык.

А ўжо 3 сакавіка дыверсійная група Пранікава атрымала новае заданне: пусціць пад адхон варожы эшалон на ўчастку паміж Броннай Гарой і Няхачавым.

Па дарозе на чыгунку зрабілі прыпынак на Запалянскіх хутарах. Адтуль па старой вузкакалейцы дабраліся да хутара Мікалая Дземідовіча, а потым накіраваліся непасрэдна да вызначанага месца.

Аб гэтай аперацыі на чыгунцы, у якой удзельнічаў Міхаіл Юрашчык, падрабязна расказалі сведкі тых падзей Мікалай Банасевіч і Тофіль Паўлоўскі.

Месца для пуску эшалона знаходзілася бліжэй да Броннай Гары. Падыйшлі да чыгункі лесам. Да насыпу і рэек заставалася каля ста метраў. Дрэвы тут спілавалі немцы, каб была чыстая мясцовасць і партызаны не маглі падысці непрыкметнымі. Праўда, засталіся пні і за імі можна схавацца.

Да чыгуначнага палатна папаўзлі двое: Юрашчык і яго памочнік Паўлоўскі. Астатнія члены групы засталіся ў вырубцы для прыкрыцця мінёраў.

Уздоўж насыпу на падыходзе немцы паставілі міны, паміж сабой злучылі дротам. Гэта так званае міннае поле. Варта было ўзарвацца адной міне, як адразу раздаваліся выбухі некалькіх. Пра гэта ведалі падрыўнікі.

Асцярожна разграбаючы снег, хлопцы знайшлі той дрот, што злучае міны, і, зрабіўшы сабе праход, папаўзлі на насып. Але як не стараліся падрыўнікі дзейнічаць ціха, не атрымалася. Ноччу ўзяўся невялікі мароз і пад нагамі то шуршэла, то хлюпала. Відаць, фрыцы пачулі нейкія шорахі або проста для прафілактыкі пусцілі ракеты, адкрылі кулямётны агонь. Юрашчык і Паўлоўскі мацней прыцiснуліся да зямлі, перачакалі страляніну і хуценька паставілі міну. Адпаўзлі ў вырубку да партызан і пачалі чакаць. Неўзабаве паказаўся цягнік. Усе затаіліся, чакаючы выбуху. Але эшалон праімчаўся і знік за паваротка́й. Міна ў тую ноч не спрацавала. Зноў хлопцы папаўзлі па той жа сцежцы, каб зняць выбуховы зарад, бо днём немцы абавязкова знойдуць яго.

**9.**

Пераначаваўшы на Запалянскіх хутарах, падрыўнікі на другую ноч прыйшлі на тое ж самае месца. Яны былі ўпэўнены: немцы не падумаюць, што партызаны зноў прыйдуць сюды.

Калі Юрашчык і Паўлоўскі папаўзлі да насыпу па той жа сцежцы, што і ў мінулую ноч, то заўважылі: фрыцы днём тут пабывалі. Зноў спатрэбілася пераразаць дрот.

У гэты самы момант пачуўся нейкі шум, а потым з Броннай Гары паказаўся паравоз. Святло яго ліхтара далёка відаць, і яно хутка набліжалася. Трэба спяшацца.

— Я сам пастаўлю міну — шапнуў Міша свайму памочніку. – Адпаўзай хутчэй.

Юрашчык за некалькі секунд узабраўся на насып. Эшалон вось-вось павінен быць тут, ужо чуваць перастук колаў на рэйках.

У тую ж хвіліну ўзляцелі ў неба адразу некалькі ракет. Стала светла, як днём. Застрачылі кулямёты і аўтаматы. З усіх бакоў немцы кінуліся да Юрашчыка. Мусіць, вырашылі ўзяць яго жывым. Партызаны, што прыкрывалі мінёраў, таксама адкрылі агонь. Але другая група немцаў перанесла свой агонь на вырубкі і прымусіла партызан адыходзіць. І падрыўнікі, і Юрашчык зразумелі: іх тактыку разгадалі немцы і зрабілі засаду, у якую яны трапілі.

Па сутнасці Юрашчык застаўся сам, з мінай у руках, ля рэек. «Гэта ўжо канец. Вось табе, Міша, і сон спраўдзіўся, — мільганула ў думках Юрашчыка. – Да сябе забірае бацька сына. Як не хочацца...»

А нямецкая кола тым часам звужалася вакол Міхаіла. І калі фрыцы падбеглі зусім блізка, раздаўся страшэнны выбух. Гэта Юрашчык узарваў міну. Сам загінуў і адправіў на той свет цэлую групу фашыстаў. А паравоз, што імчаўся з Броннай Гары, не змог адразу спыніцца і ля месца выбуху споўз з рэек і з насыпу і перакуліўся.

Так трагічна закончыўся апошні паход Міхаіла Юрашчыка на чыгунку. Ён загінуў, як герой. І стаў народным героем, здзейсніўшы подзвіг у імя будучай перамогі, у імя светлага заўтра. Імя патрыёта і подзвіг яго – бяссмяротныя. Ім вечна жыць у людской памяці. І заўсёды напамінаць пра партызана-героя з Гошчава.

*С. КАЖАДУБ.*

***НА ЗДЫМКУ: партызан Міхаіл Юрашчык. Ён пасмяротна ўзнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны і медалём "За адвагу".***

# Вооруженные Силы Республики Беларусь в цифрах и фактах

В начале девяностых годов группировка войск, дислоцировавшихся на территории Беларуси (войска КБВО и части центрального подчинения), достигала 250 тысяч человек, из которых 177 тысяч составили военнослужащие.

Сегодня численность Вооруженных Сил Республики Беларусь по штату – немногим более 83 тысяч военнослужащих. В строю стоят около 18,5 тыс. офицеров и около 9 тысяч прапорщиков.

XXX

Укомплектованность белорусской армии офицерами составляет более 85 процентов. Их дефицит сокращается за счет повторного призыва. Например, в 1996 году из запаса был призван 271, в 1997-м – 324 человека. Кроме того, в армию призываются выпускники вузов, окончившие военные кафедры. Часть офицерских должностей укомплектована прапорщиками (около 13 процентов) и более 2 процентов – служащими от общего числа не укомплектованных.

Прапорщики являются резервом офицерского корпуса. В 1997 году аттестационные комиссии приняли решение о присвоении 15 военнослужащим этой категории воинского звания «лейтенант».

XXX

Основную часть офицерского корпуса составляют белорусы – 51 процент. Около 36 процентов – русские и немногим более 10 процентов – украинцы. Средний возраст офицеров – 33 года. Более 90 процентов офицеров – с высшим образованием, около 10 процентов имеют высшее военное (академическое) образование.

Если в прошлом году досрочно было присвоено очередное воинское звание 14 офицерам, то только за 2 месяца 1998 года такой чести удостоились уже 25 человек.

XXX

В Вооруженных Силах 42 генеральские должности, но служат всего 32 генерала. В 1997 году были уволены в запас 8 генералов. В белорусской армии один генерал приходится примерно на 2 тысячи военнослужащих, тогда как в вооруженных силах Голландии – на 950, США – на 835, Украины – на 700, Англии – на 340 военнослужащих.

XXX

В армейском строю – около 12 тысяч военнослужащих, проходящих службу по контракту. То, что контрактники – профессионалы своего дела, известно всем. А вот то, что государству обходятся они значительно дешевле, знают немногие. Вот лишь один пример из расчетов, проведенных специалистами управления военного бюджета и экономики. Призыв, обучение и содержание командира танка (военнослужащего срочной службы) за период службы (1,5 года) обходится почти в 240 минимальных зарплат, а контрактника всего в 170. В расчет берется денежное содержание, продовольственное, вещевое, медицинское обеспечение, дорожные расходы. Кроме того, в затраты на солдата срочной службы входят и расходы на призывную кампанию, бытовые и коммунальные услуги, содержание столовых, банно-прачечных комбинатов.

XXX

В белорусской армии проходят службу около 4 тысяч женщин-военнослужащих, в том числе более 600 прапорщиков и 67 офицеров. Остальные – солдаты и сержанты, проходящие военную службу по контракту.

В запасе находятся еще более 20 тысяч женщин-офицеров. Все они окончили военные кафедры гражданских вузов. В основном это медицинские работники.

Женщин по отношению к общей численности военнослужащих, конечно, мало. Но среди них уже есть две в воинском звании «подполковник». Это начальник третьего отдела Брестского городского военного комиссариата Надежда Гуменко и заместитель Лидского городского военного комиссара Надежда Мулица. Кроме того, среди женщин 8 майоров, 17 капитанов, 15 старших лейтенантов и 25 лейтенантов.

XXX

Сейчас, когда в белорусской армии обстановка нормализовалась, управлять воинскими коллективами стало легче и престижнее. Поэтому и число рапортов офицеров о досрочном увольнении поубавилось. Ну, а наиболее яркий показатель того, что офицерская служба обретает былой престиж, — число желающих учиться в Военной академии. В 1997 году конкурс на некоторые факультеты академии составлял 4 человека на место. Больше всего желающих учиться на факультетах инженерных и автомобильных войск, внутренних войск МВД, пограничных войск. Вопреки сложившемуся представлению, что в матушку-пехоту идти особых охотников нет, на общевойсковой факультет был также высокий конкурс – более трех человек на место.

В Военной академии обучаются около 3,5 тысяч курсантов и слушателей. В том числе более 600 человек – для пограничных войск и внутренних войск МВД.

XXX

По сравнению с советским периодом, количество полигонов и стрельбищ на территории Беларуси сократилось более чем на 30 процентов – осталось 21. Это полигоны общевойсковые, авиационные, химических войск, войск ПВО и связи. Общая площадь, занимаемая ими, — более 380 тысяч гектаров.

За время существования Вооруженных Сил республики народному хозяйству военными передано более 130 тысяч гектаров земель. Планируется дальнейшее сокращение как количества полигонов, так и их площадей. Останутся только крупные полигоны корпусов и центрального подчинения. Кроме того, на значительных площадях служба полигонов покрывает лесом площади рабочих полей полигонов. С 1996 года, как и планировалось, на 26 тысячах гектаров произведена посадка леса. Это дает ежегодный экономический эффект 18,5 млрд. рублей (в ценах 1996 года).

В 1997 году из переданных Министерством обороны в народное хозяйство 9372 гектаров полигонные земли составляют 8370 гектаров. Уже в этом году передано 2,5 тыс. гектаров Минского полигона. В 1999 году планируется передать еще более 20 тысяч гектаров полигонных земель. Надо сказать, что на всех передаваемых землях военные проводят рекультивацию, что включает сплошную очистку от неразорвавшихся боеприпасов.

XXX

Белорусского солдата кормят по нормам, введенным в действие летом 1995 года. Суточный набор продуктов по качеству и калорийности ничем не уступает аналогичным наборам военнослужащих других стран СНГ. Всего же ассортимент солдатского пайка составляет более 30 наименований.

Ежедневно солдат срочной службы потребляет: хлеба (ржаного и пшеничного) –750 граммов, круп – 120, макаронных изделий – 40, мяса – 200, рыбы – 120, масла растительного – 20, масла сливочного – 30, молока – 100, сахара – 70, овощей и картофеля – 900 граммов, яиц – 4 штуки в неделю и еще многое другое, включая специи и приправы. Весной (с 15 апреля по 15 июня) в дневном рационе предусмотрен и поливитаминный препарат гексавит.

Отдельные категории военнослужащих получают дополнительное питание за особые условия службы. Сюда входит мясо и мясокопчености, масло, молоко, твердый сычужный сыр, свежие фрукты, кофе или какао, печенье.

XXX

В учебных подразделениях белорусской армии готовят солдат и сержантов более чем по 100 специальностям. В 1997 году, например, здесь обучалось около 6 тысяч человек. Многие военные специальности аналогичны гражданским. Уволившись в запас, военнослужащие приходят в народное хозяйство, имея не только специальность, но и определенный опыт, полученный в армии. Ну чем, скажем, различаются специальности повара, автокрановщика, санинструктора, аккумуляторщика, электрика в армии и на гражданке?!

*Я. ЛЕМЕХ, журналист, БелаПАН.*

## КАГО НАМ БУСЕЛ ПРЫНЁС?

За красавік гэтага года ў Івацэвіцкім ЗАГСе зарэгістравана 15 дзетак, якія нядаўна нарадзіліся:

**Баранава Дзіяна**
**Басалай Аляксандр**
**Куль Яўген**
**Корза Міхаіл**
**Кавалевіч Аляксандр**
**Мяцечка Дар'я**
**Макар Аляксандр**
**Паўленя Назар**
**Райко Настасся**
**Слясарчык Кацярына**
**Сімончык Руслан**
**Такарчук Святлана**
**Турцэвіч Аляксандр**
**Хвяшчук Іван**
**Шклярык Валерыя**




● *УВАГА: КОНКУРС!*

## Дзевяць плюс адзін




*Першыя дзевяць пытанняў з'яўляюцца своеасаблівым тэстам на ўзровень вашай эрудыцыі. Правільныя адказы на іх змешчаны ніжэй. На дзесятае пытанне конкурсу трэба адказаць пісьмова на адрас рэдакцыі. Сярод лістоў з правільнымі адказамі будзе праведзена лёсаванне, якое і вызначыць, хто ж стане пераможцам і атрымае прыз ад рэдакцыі нашай газеты.*

**1. Знакаміты рэжысёр тэатра і кіно, сцэнарыст Інгмар Бергман з'яўляецца па паходжанню:**
а) немцам;
б) шведам;
в) амерыканцам.

**2. Самай буйнай жывёлай Зямлі з'яўляецца:**
а) блакітны кіт;
б) слон;
в) тыгравая акула.

**3. Першы ў гісторыі авіяцыі пералёт праз Ла-Манш здзейсніў:**
а) Валерый Чкалаў;
б) Луі Блерыё;
в) Джон Бойд-Ор.

**4. Бліндаж — гэта:**
а) асаблівы гатунак бліноў;
б) фартыфікацыйнае абарончае збудаванне;
в) грузінскі народны танец.

**5. Вытворца аўтамабіляў БМВ фірма "Баерышэ маторэнвэрке" месціцца ў:**
а) Даніі;
б) ЗША;
в) Германіі.

**6. Лазар Богша вядомы ў гісторыі Беларусі тым, што:**
а) стварыў напрастольны крыж Ефрасінні Полацкай;
б) пабудаваў Каложскую царкву ў Гродне;
в) заснаваў першую на Беларусі друкарню.

**7. Горад у нашым рэгіёне, дзе працуе буйная электрастанцыя на прыродных рэсурсах:**
а) Косава;
б) Івацэвічы;
в) Белаазёрск.

**8. Мора Бофарта належыць да басейна:**
а) Ціхага акіяна;
б) Атлантычнага акіяна;
в) Паўночнага Ледавітага акіяна.

**9. Горад Віндхук з'яўляецца сталіцай:**
а) Намібіі;
б) Анголы;
в) Мазамбіка.

Правільныя адказы: 1б, 2а, 3б, 4б, 5в, 6а, 7в, 8в, 9а.

**Дзевяць** правільных адказаў — выдатна, **7-8** — вельмі добра, **5-6** — добра, **3-4** — здавальняюча, **менш 3-х** — у Вас ёсць над чым папрацаваць.

**10. Хто з'яўляецца аўтарам аповесці "Дажыцьда світання"?**





## К СВЕДЕНИЮ НАСЕЛЕНИЯ ИВАЦЕВИЧСКОГО РАЙОНА

В целях создания удобств для обслуживания страхователей отделение Белгосстраха по Ивацевичскому району ввело с 21 апреля 1998 года новый распорядок работы с населением:
— рабочие дни с **8.00** до **19.00** без обеденного перерыва;
— в субботу с **9.00** до **16.00** без обеденного перерыва.
Прием посетителей производится ежедневно (кроме воскресенья) в указанные выше часы.
Телефоны отделения: **2-31-57, 2-31-73.**

*Администрация отделения Белгосстраха по Ивацевичскому району.*


Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах. Набіраецца ў Івацэвічах, друкуецца ў Баранавіцкай друкарні (г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80). Выходзіць два разы на тыдзень: у сераду і суботу.
Фармат 420x300 мм. Аб'ём — 1 друк. аркуш.
Падпісана да друку 7 мая ў 9.00.

Заснавальнік: рэдакцыя "Газеты для вас"
Газета зарэгістравана ў Дзяржаўным камітэце РБ па друку. Пасведчанне № 694.

РЭДАКТАР ЛІДЗІЯ ЦАЛУЙКА.



НАШ АДРАС: рэдакцыя "Газеты для вас".
вул. Леніна, 62, 225250, г. Івацэвічы.
Тэлефон: 8 ( 245) 2-12-29.



Рукапісы і здымкі не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Аўтары матэрыялаў нясуць адказнасць за дакладнасць фактаў. Іх меркаванні і выказванні могуць не супадаць з пунктам гледжання рэдакцыі і не накладваюць на яе ніякіх абавязацельстваў. Пры перадрукоўванні спасылка на нашу газету абавязковая.

*Тыраж 1850.*
*Заказ 1454.*